ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 25 (2479) 20 чэрвеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## І ЎЗНЯЎСЯ ХРАМ У ЧЫСЦІ



Некалькі дзесяткаў гадоў назад невялікая сельская капліца, узведзеная ў мінулыя вякі, была канчаткова разбурана. Так спыніў сваю дзейнасць апошні праваслаўны храм паблізу пасёлка Чысць Маладзечанскага раёна.

Але не спынілася праваслаўнае жыццё ў гэтых мясцінах. Усёй грамадой збіралі сяльчане грошы на новую царкву. Памаглі ім у гэтай высакароднай справе і багатыя спонсары. І вось нядаўна ўскраіна пасёлка стала месцам вялікага свята: мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт асвяціў новы праваслаўны храм.

На сорак тры метры ўзнялася званіца, з вышыні якой адкрываюцца маляўнічыя далягляды. Побач з царквой размясціўся сельскі могільнік, які таксама абнеслі новай прыгожай агароджай, пабудавалі на яго зямлі невялікі будынак рытуальнай службы.



НА ЗДЫМКАХ: новы храм паблізу пасёлка Чысць; першая літургія пад скляпеннямі новага храма.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

*Моніка Банькоўска-Цуліг жыве ў Швейцарыі. Яна -- член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. У апошні свой прыезд у Мінск завітала і ў рэдакцыю "Голасу Радзімы". Газеце, якая ёй падабаецца, Моніка Банькоўска аказала грашовую дапамогу.*

ГОСЦЯ РЭДАКЦЫІ -- МОНІКА БАНЬКОЎСКА-ЦУЛІГ

## ДЗЯКУЙ НА ДОБРЫМ СЛОВЕ!

**-- Скажыце, Моніка, як здарылася, што вас зацікавіла беларуская мова, наогул, калі пачалося ваша захапленне беларусікай. Што вас да яе падштурхнула!**

-- Цяжка сказаць, калі пачалося, бо пачалося вельмі даўно. Я тады вучылася ва універсітэце на другім курсе славістыкі. [illegible] вывучала расійскую мову, [illegible]ольскую, і раптам натрапіла на кніжку, напісаную беларускай мовай.

**-- Што гэта была за кніжка!**

-- Не помню [illegible] якая, але помню, што [illegible] цікавая. Самае галоўнае, што мне спадабалася мова. Я такой раней не чула і ніхто мне пра яе не расказваў. І толькі потым даведалася, што гэта мова -- беларуская. Хто такія беларусы, думала я, і чаму мы так мала пра іх ведаем. Тады і пачала займацца самастойна.

**-- Які гэта быў год!**

-- Прыкладна 68. Кніжак на беларускай мове было вельмі мала і атрымаць іх не было адкуль, але я чытала ўсё, што знаходзіла. Нідзе не магла дастаць пласцінку, каб пачуць мову.

**-- Я хацела якраз спытаць: вы пачалі вывучаць мову па кніжках і ніколі не чулі, як яна гучыць!**

-- Так, пачула яе, калі ўпершыню прыехала ў Беларусь у 1990 годзе. Адбылося гэта так. Мне ўвесь час хацелася некаму пісаць у Беларусь. І раптам я атрымала ліст ад беларускага даследчыка. Ён пісаў на добрай нямецкай мове. Ліст прыйшоў у нашу бібліятэку, дзе я працавала. Ён хацеў ведаць, ці ёсць у нас беларускія кніжкі і якія. Гэтым даследчыкам быў Уладзімір Лявонцьевіч Сакалоўскі. Мяне ўзрадавала, што хтосьці цікавіцца такімі пытаннямі і я адказала, напісаўшы пісьмо на беларускай мове. Завязалася перапіска, і так я атрымала запрашэнне ў Мінск.

**-- У чым заключаюцца вашы даследаванні, звязанныя з Беларуссю!**

-- Маю працу нельга назваць даследаваннем. Я не маю часу, каб грунтоўна займацца тым, што мне падабаецца. Я працую ў бібліятэцы, а ўсё, што звязана з Беларуссю, -- найбольш для душы, і займацца даводзіцца ў вольны ад асноўнай працы час. Калі канкрэтызаваць кола маіх інтарэсаў, то скажу, што больш за ўсё мяне цікавяць сувязі паміж Швейцарыяй і Беларуссю. Найбольш сувязі гістарычныя. Напрыклад, у XVI і XIX стагоддзях.

Два гады назад пачала збіраць матэрыялы пра тое, як успрымалі Беларусь замежныя падарожнікі. Сабрала шмат матэрыялу, хацелася б зрабіць бібліяграфію з каментарыямі. Калісьці Адам Мальдзіс пісаў пра падарожнікаў, якія ехалі праз Беларусь, але ёсць многа сведчанняў людзей, пра якіх яшчэ ніхто не пісаў, а яны пакінулі каштоўныя звесткі пра звычаі, этнаграфію, прыроду гэтага краю.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

РАХУНАК НАШАГА СУМЛЕННЯ

## НЕЗАБЫЎНЫ СОРАК ПЕРШЫ

**Той страшны год у многім яшчэ не асветлены ў гістарычных даследаваннях. Лягчэй і прасцей гаварыць пра перамогі. Апісваць бляск урачыстага салюта ў гонар выйграных бітваў, вядома, больш прыемна, чым горкі смутак паражэнняў. Расказваць пра апошні дзень вайны -- задача больш высакародная, чым аб першым яе дні. Вайна ж, гэта найвялікшая трагедыя, мела не толькі бліскучы канец, але і трагічны і цяжкі пачатак.**

**Аб прычынах, што прывялі да паражэнняў напачатку, нельга не гаварыць, бо такі падыход не толькі наносіць страту гістарычнай праўдзе, але і прыніжае гераізм савецкіх воінаў, які яны праявілі ў пачатковы перыяд вайны, і велічнасць нашай перамогі ў вайне, распачатай у выключна неспрыяльных абставінах.**

*22 чэрвеня 1941 года*

**НЯДЗЕЛЯ**

**ПОЎДЗЕНЬ**

... і раптам:

"Гавораць усе радыёстанцыі Савецкага Саюза..."

Звыклы мір з яго звычайнымі радасцямі нечакана распаўся. Вайна ўварвалася і закружыла ў сваім крывавым віры мільёны чалавечых жыццяў. Гітлераўская Германія вераломна напала на Савецкі Саюз.

Дзень 22 чэрвеня 1941 года. Па-першае, запозненыя дырэктывы аб прывядзенні войск заходніх пагранічных акругаў у поўную баявую гатоўнасць. Адсюль для іх -- аператыўная і тактычная раптоўнасць. Пра гэта зусім недвухсэнсава сведчаць і ўдзельнікі падзей з нямецка-фашысцкага боку, якіх у даным выпадку ніяк не западозрыш у фальсіфікацыі. Так, камандуючы 2-й танкавай групай генерал-палкоўнік Гейнс Гудэрыян успамінаў: "...20 і 21 чэрвеня знаходзіўся ў перадавых часцях маіх карпусоў, правяраючы іх гатоўнасць да наступлення. Пільнае назіранне за рускімі пераканала мяне ў тым, што яны нічога не падазраюць пра нашы намеры. У двары крэпасці Брэста, які праглядваўся з нашых назіральных пунктаў, пад гукі аркестра яны праводзілі развод караулаў.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПЕРСПЕКТЫВЫ СУВЯЗІ*

## НА СУСВЕТНЫ ЎЗРОВЕНЬ



**Увод у эксплуатацыю агульнадзяржаўнай сеткі перадачы даных "БелПак" адкрывае для рэспублікі вялікія перспектывы ў развіцці якаснай сувязі.**

**Паводле слоў спецыялістаў, з дапамогай яе можна ўваходзіць у такія сусветныя сістэмы, як "Спрынт", "Інтэрнет". І таму невыпадкова напярэдадні афіцыйнага адкрыцця станцыі Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся 12 чэрвеня з віцэ-прэзідэнтам Рычардам Г. Бролі і дырэктарам міжнароднага гандлю і базавых службаў на тэрыторыі СНД В. Арло Гасры амерыканскай кампаніі "Глобал Уан", дзякуючы супрацоўніцтву з якой і ажыццёўлены гэты важны для нас праект. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, тых, хто жадае выйграць тэндэр на яго будаўніцтва, было нямала. У свой час прапановы паступілі ад фірмаў з Францыі, Японіі, Англіі, Канады. Ён выказваў пажаданне кампаніі пашыраць і ўмацоўваць свае сувязі з нашай рэспублікай і ў далейшым.**

**Міністр сувязі і інфармацыі Уладзімір Ганчарэнка, які прысутнічаў на сустрэчы, адзначыў, што ў канцы месяца ў Беларусі з'явіцца і свая нацыянальная тэлексная станцыя. Гэта дасць магчымасць выйсці на сусветны ўзровень абмену інфармацыяй, асабліва пры пасылцы рознай дакументацыі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы А.ЛУКА[illegible]І з прадстаўнікамі амерыканскай кампаніі "[illegible]бал Уан".**

*ТЛУМАЧЭННЕ С.ШАРЭЦКАГА*

## МАЁ ВЫСТУПЛЕННЕ НАКІРАВАНА ТОЛЬКІ НА АБ'ЯДНАННЕ

**У адказ на пытанне карэспандэнта Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, ці не азначае выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі пачатак імпічменту Прэзідэнту, Сямён Шарэцкі адказаў:**

**-- Ні ў якім выпадку нельга так разумець маё выступленне. І ў сувязі з тым, што яно было ўспрынята так неадназначна, я хачу яшчэ раз адзначыць асноўную мэту: выступленне накіравана на аб'яднанне ўсіх галін улады, а не на раскол, як хацелася б некаторым нядобразычліўцам.**

**Справа ў тым, што абстаноўка ў рэспубліцы -- і эканамічная, і палітычная -- з кожным днём пагаршаецца. І таму трэба даць людзям нейкае тлумачэнне, якое аб'ядноўвала б усе нашы не толькі галіны ўлады, але і палітычныя партыі, грамадскія рухі на вырашэнне адной з важнейшых задач: пошук выйсця з цяжкага становішча, якое стварылася. Вось, у асноўным, на гэта і было накіравана маё выступленне.**

**Выказваюцца і такія думкі, што, маўляў, не варта было яго рабіць у адсутнасць Прэзідэнта. Я хацеў бы растлумачыць. Прэзідэнт ніколі не адсутнічае. Дзе б ён ні знаходзіўся, ён, запэўніваю вас, увесь час са сваёй дзяржавай і ведае пра справы, прычым штодзённа, усіх галін улады. І, выступаючы перад дэпутатамі, я пра гэта ведаў.**

**Аднак абставіны складваліся так, што далей адкладваць такое выступленне было проста нельга. Я звярнуўся да Прэзідэнта, да ўрада, да палітычных партый, вучоных і г.д. Тым самым падкрэсліў, што маё выступленне накіроўвае не на раскол, не на раз'яднанне грамадства, а тым больш галін улады, а, наадварот, на кансалідацыю, -- заявіў С.Шарэцкі.**

*ПАРТЫЯ ПАТРАБУЕ*

## ЗАЯВА БПС У ПРАКУРАТУРУ

**Беларуская партыя свабоды накіравала ў Пракуратуру, Канстытуцыйны суд і Вярхоўны Савет Беларусі заяву з патрабаваннем разгледзець "факт насілля над нашым суайчыннікам" у Мінску 30 мая.**

**У гэты дзень, адзначаецца ў заяве, з санкцыі выканаўчай улады сіламі МУС былі парушаны правы чалавека, дэкларававаныя Канстытуцыяй: 84 чалавекі арыштаваны, больш сотні (сярод іх жанчыны і непаўналетнія) жорстка збіты. Затрыманым адмовілі ў медыцынскай дапамозе, паслугах адвакатаў і сустрэчах са сваякамі. Некаторыя грамадзяне да гэтага часу знаходзяцца ў ізалятары-размеркавальніку ў чаканні суда.**

*Мы павінны перагледзець свае адносіны да формы ўласнасці, бо ніколі не знойдзем выйсця з крызісу, калі будзем трымацца толькі за дзяржаўную ўласнасць. Я глыбока перакананы, што нам трэба зрабіць усё магчымае, каб развіваўся малы і сярэдні бізнес, які б ствараў новыя працоўныя месцы, асабліва на фоне тэндэнцыі росту беспрацоўя. Наогул рэфарміраваць нашу эканоміку без новых эканамічных адносінаў немагчыма. Трэба ствараць заканадаўства, разлічанае на прыцягненне інвестыцый, у тым ліку і замежных, заканадаўства, якое б гарантавала вяртанне гэтых сродкаў, бо сёння толькі гэта можа зрушыць справы з месца. Пакуль жа гэтага не будзе, шанцаў на выхад з крызісу няма. На жаль, палітыка, якая праводзіцца ў нашай дзяржаве, якраз вядзе нашу эканоміку зусім у адваротны бок.*

*Што датычыцца палітычных перакананняў, то адзначу, што чалавек у нашай дзяржаве павінен быць свабодны ва ўсім. Ён павінен мець права і крытыкаваць улады, і ўносіць свае прапановы. Вядома, я не падтрымліваю экстрэмісцкія рухі, якія імкнуцца гвалтоўна звергнуць уладу. Сёння ж у нас улады імкнуцца прыціснуць тых, хто выказвае іншую думку. Лічу, што гэта вельмі вялікая памылка і ні да чога, акрамя канфрантацыі, не прывядзе.*

*(Сямён ДОМАШ, член прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. З інтэрв'ю газеце "Звязда").*

*ПРЫВАТНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА*




**"Даміно" -- так завецца першы прыватны магазін у гарадзе Століне. Год назад Андрэй Касавудскі і Анатоль Малчановіч адкрылі яго. Першы з іх скончыў Гомельскі кааператыўны, другі -- Мінскі радыётэхнічны інстытут. Пачыналі з малога -- закупалі ў іншых гарадах і прывозілі ў Столін тыя прадукты, якіх не было ў мясцовых магазінах. Зараз у "Даміно" ў любы дзень налічваецца ад 300 да 400 назваў рознага тавару. Магазін працуе з 9 гадзін раніцы і да 24 гадзін ночы.**

**НА ЗДЫМКУ: Андрэй КАСАВУДСКІ і Анатоль МАЛЧАНОВІЧ -- уладальнікі "Даміно".**

*ЗДАБЫЧА НАФТЫ*

## ЗНІЖАЕЦЦА ПА ПЛАНУ

**Здабыча беларускай нафты за пяць месяцаў гэтага года склала 775 986 тон, ці 96,2 працэнта ад здабытай за аналагічны перыяд 1995 года.**

**Як паведамілі БелаПАН у канцэрне "Белнафтапрадукт", зніжэнне аб'ёмаў здабычы нафты адбываецца планава. Паводле прагнозаў спецыялістаў, сёлета вытворчым аб'яднаннем "Беларуснафта" будзе здабыта 1 мільён 858 тысяч тон (у 1995 годзе гэтая лічба складала 1 мільён 932 тысячы). Сярод асноўных прычын чакаемага зніжэння гадавой здабычы нафты адзначаюцца: высокая (да 80 працэнтаў) абводненасць здабываемай прадукцыі на асноўных распрацоўваемых радовішчах, доля якіх у агульнай здабычы складае каля 70 працэнтаў; складаная геалагічная будова; вялікія глыбіні залягання; выкарыстанне ў нафтаразведцы і нафтаздабычы зношанай тэхнікі і маральна састарэлых тэхналогій.**

*ШКОЛА ДУХОЎНАГА ЖЫВАПІСУ*



**Дзіцячая школа духоўнага жывапісу, якой кіруе Алена Харэцкая, каля года дзейнічае ў Жлобіне пры падтрымцы мясцовай царквы. Юныя жывапісцы арганізоўваюць ужо 17-ю выставу сваіх работ, якія выклікаюць заўсёды цікавасць і добрыя водгукі.**

**НА ЗДЫМКУ: А. ХАРЭЦКАЯ з дзецьмі на занятках у школе духоўнага жывапісу.**

*ТЭРОР*

## ЗАЛОЖНІКАМІ СТАЛІ ДЗЕЦІ

**Прыкладна а дзевятай гадзіне раніцы 11 чэрвеня ў адну з груп дзіцячага садка N 511, што размешчаны ў Мінску па вуліцы Чарвякова, уварваўся мужчына гадоў сарака. Ён заявіў, што ў сумцы мае ўзрыўное ўстройства. Заложнікамі аказаліся 14 дзяцей ва ўзросце 5--6 гадоў.**

**Тэрарыстам аказаўся 43-гадовы жыхар Ратамкі, што пад Мінскам, Аляксандр Зюлькоў. У 1972 -- 1973 гадах ён служыў у войсках спецыяльнага прызначэння. Потым быў вадзіцелем машыны і праваднікам на чыгунцы. Хранічны алкаголік, лячыўся ў псіхіятрычнай бальніцы.**

**Тэрарыст меў пры сабе ўзрыўное ўстройства -- два кілаграмы траціла. У час перагавораў з ім сілам правапарадку ўдалося стрэлам у галаву абясшкодзіць тэрарыста. Дзеці і выхавацельніцы не пацярпелі.**

*ПАСЛЯ ІНЦЫДЭНТУ З ШАРАМІ*

## АФІЦЫЙНАЕ ЗАКЛЮЧЭННЕ

**Закончылася расследаванне абставінаў інцыдэнту, у выніку якога быў збіты паветраны шар і загінулі двое амерыканскіх грамадзян. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе ў Пасольстве ЗША ў Беларусі, міжнародная камісія, што расследуе прычыны здарэння, якое адбылося ў верасні 1995 года, прадставіла афіцыйнае заключэнне ў Міжнародную арганізацыю грамадзянскай авіяцыі.**

**У заключэнні канстатуецца, што прычынай трагедыі сталі некалькі фактараў. Адным з іх з'яўляецца недастаткова поўнае выкананне органамі грамадзянскай авіяцыі Беларусі працэдур, устаноўленых для афармлення заявак на палёты. Эксперты таксама ўказалі на памылкі, дапушчаныя беларускімі Узброенымі Сіламі, што датычаць ідэнтыфікацыі і класіфікацыі паветранага шара як лётнага сродку. У дакуменце, акрамя таго, адзначаецца, што не былі прыняты адпаведныя захады для ўстанаўлення кантакту з людзьмі, якія пілатавалі паветраны шар.**

**Міжнародная камісія дае канкрэтныя рэкамендацыі арганізатарам спаборніцтваў паветраных шароў па павышэнню гатоўнасці каманд паветраплавальнікаў да такіх спаборніцтваў, якія ў ходзе палёту павінны падтрымліваць прамы радыёкантакт з адпаведнымі наземнымі службамі.**

*Н Е АД РАСКОШЫ*



**Праставанне Беларускага футравага аб'яднання, дзе занята значная частка жлобінскіх жанчын, прывяло работнікаў прадпрыемства на вакзал. Тут яны прапаноўваюць пасажырам вырабленыя прыватна мяккія цацкі, балазе зарплату выдаюць "натурай" -- футрам -- ужо даўно. Уражвае, што вырабленыя саматужным спосабам цацкі, атрымліваюцца больш прыгожымі і якаснымі, чым імпартныя. Аказваецца, можам і мы добрую прадукцыю вырабляць. Але прадаць складана: у кожным праходзячым з Украіны або Расіі цягніку толькі па дзесятку пасажыраў у вагоне.**

**НА ЗДЫМКУ: гандаль на жлобінскім пяроне.**

# НЕЗАБЫЎНЫ СОРАК ПЕРШЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Берагавыя ўмацаванні ўздоўж Заходняга Буга не былі заняты рускімі войскамі...

Перспектывы захавання моманту раптоўнасці былі настолькі вялікімі, што ўзнікла пытанне, ці варта пры такіх абставінах праводзіць артылерыйскую падрыхтоўку?.."

Па-другое, фатальныя вынікі мела тое, што разведка праціўніка (і гэта пры нашай звышпільнасці!) дасканала ўскрыла сістэму дыслакацыі нашых сіл і сродкаў, як і інфраструктуру іх забеспячэння, камунікацый, сувязі і да т.п., у прыгранічнай зоне прыкладна на глыбіню да 300 кіламетраў.

Па-трэцяе, аслабленне нашага супраціўлення першым ударам ворага пацягнула за сабой і масавы адрыў ад сваіх часцей на вучэбныя зборы артылерыйскіх, у тым ліку зенітных сродкаў.

Па-чацвёртае, Чырвоная Армія была фактычна разгромлена яшчэ да пачатку вайны: развязаны тэрор скасіў столькі жыццяў палкаводцаў і вайсковых камандзіраў, колькі не траціла ні адна армія свету нават у выніку паражэння ў вайне.

Па-пятае, арганізацыю трывалай абароны ў пачатковы перыяд вайны ўскладніла зусім недастатковая аператыўная падрыхтоўка тэрыторыі, у прыватнасці, Заходняй Беларусі, якая зноў увайшла ў склад СССР у 1939 годзе, дзе разгарнуліся першыя бітвы Вялікай Айчыннай.

Па-шостае, існаваў пралік І.В.Сталіна ў вызначэнні верагоднага накірунку галоўнага ўдара агрэсара, чым была выклікана адносная слабасць Заходняга фронту ў параўнанні з Паўднёва-Заходнім і інш.

22 чэрвеня 1941 года ў 00 гадзін 30 хвілін дырэктыва N 1 з Масквы папярэджвала камандуючых заходнімі акругамі аб магчымасці раптоўнага нападу, але тут жа ўказвала: "Напад немцаў можа пачацца з правакацыйных дзеянняў". Дырэктыва N 2, перададзеная ў 7 гадзін 15 хвілін гаварыла: "...У сувязі з нечуваным па нахабнасці нападам з боку Германіі на Савецкі Саюз загадваю:

"Войскам усімі сіламі і сродкамі напасці на варожыя сілы і знішчыць іх у раёнах, дзе яны парушылі савецкую граніцу. Надалей да асобага распараджэння граніцу не пераходзіць..."

Змест гэтай дырэктывы не адпавядаў абстаноўцы, што на той час склалася. Калі яе атрымалі камандуючыя франтамі, арміі прыкрыцця ходам падзей уцягнуліся ў абарончыя бітвы, а механізаваныя карпусы накіроўваліся ў раёны, указаныя ім у плане абароны. Хутка арганізаваць магутныя контрудары ў тых абставінах яны не маглі, бо для гэтага патрабавалася па крайняй меры некалькі гадзін. Спробы контратакаваць праціўніка асобнымі танкавымі часцямі станоўчых вынікаў не давалі, ды і не маглі даць, бо іх яшчэ на маршы выявіла і знішчыла варожая авіяцыя.

Асабліва неспрыяльна развіваліся падзеі ў паласе Заходняга фронту, дыслацыраванага на тэрыторыі Беларусі (камандуючы генерал арміі Д.Паўлаў, начальнік штаба генерал-маёр В.Клімоўскі, член Ваеннага савета корпусны камісар А.Фамініх). Лавіна варожых танкаў з групы Гудэрыяна рухалася на поўнач і поўдзень ад Брэста. Ім удалося з ходу захапіць некалькі мастоў, якія не былі ўзарваны савецкімі войскамі пры адыходзе і не падрыхтаваны да ўзрыву. Дакладваючы пра гэта Браўхічу, Гудэрыян не прамінуў падкрэсліць, што гэты факт сведчыць супраць загадзя падрыхтаванага, планамернага і прадуманага адыходу савецкіх войскаў.

Удары нямецкай авіяцыі аказвалі вельмі неспрыяльны ўплыў на ход баявых дзеянняў. У раёне Гродна, дзе размяшчаўся штаб 3-й арміі, лютаваў 8-ы авіяцыйны корпус пікіруючых бамбардзіроўшчыкаў пад камандаваннем Вальфрама фон Рыхтгофена, які праславіўся сваімі бамбёжкамі гарадоў Польшчы і Францыі.

Але і ў гэтых надзвычай цяжкіх умовах савецкія воіны смела і мужна, нягледзячы на велізарныя страты, адсутнасць боепрыпасаў і ўзбраення, уступалі ў бой.



**Вёска Застарынне Баранавіцкага раёна -- сястра Хатыні. Тут пяцьдзесят тры гады назад разыгралася страшная трагедыя. Акрамя таго, што ў вёсцы былі спалены ўсе 96 дамоў, фашысты спалілі і расстралялі 382 чалавекі. Тут жа загінула 28 партызан атрада імя Суворава, якія ўступілі з імі ў няроўную бітву. Засталіся сведкі той страшэннай трагедыі -- тады яны былі дзецьмі, якім удалося ўцячы ў лес.**

**НА ЗДЫМКУ: помнік загінуўшым застарынцам. Часта прыходзяць сюды пакланіцца праху родных і блізкіх цудам ацалелыя сведкі той жудаснай расправы, зараз пенсіянеры Іван СКАРАХОД, Сямён ЯЎЛАШ, Пётр СКАРАХОД.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

Да 13 гадзін усе вузлы сувязі ў 3-й арміі былі знішчаны. Аднавіць радыё- і правадную сувязь не ўяўлялася магчымым. Кіраванне войскамі ажыццяўлялася толькі праз дэлегатаў сувязі, якія знішчаліся нямецкімі дыверсантамі і, як правіла, не заўсёды дабіраліся да адрасата, а калі і прыбывалі, дык занадта позна. Абставіны змяняліся вельмі хутка.

У такіх жа ўмовах давялося весці барацьбу ў першы дзень і 4-й арміі генерал-маёра А.Карабкова на брэсцкім накірунку. Яе войскі ўпарта абаранялі асобныя раёны, дзе паспелі замацавацца да падыходу нямецкіх часцей. Але варожыя танкі абыходзілі гэтыя ачагі супраціўлення і працягвалі рухацца наперад. Даносячы камандуючаму 4-й арміі пра баі ў першыя дні вайны, камандзір 75-й стралковай арміі генерал С.Нядзвігін указваў: "Чырвоны пакет спазніўся, а адсюль і ўся трагедыя. Часці траплялі пад удар разрозненымі групамі". З 44 дывізій, што меліся на пачатак вайны, 24 былі разгромлены. 20 злучэнняў што засталіся, страцілі ў сярэднім палову сіл і сродкаў, а ВПС фронту -- 1 797 самалётаў, што ў асноўным былі знішчаны на зямлі.

Што ж прывяло да катастрофы савецкіх войскаў у Беларусі летам 1941 года? У чым прычына таго, што адна з найбольш магутных нашых груповак страціла ў першыя дні вайны большую частку сіл і сродкаў?..

На пачатак вайны большасць злучэнняў... знаходзіліся ў стадыі рэарганізацыі, пераўзбраення і фарміравання... З шасці ствараемых механізаваных карпусоў амаль поўнасцю матэрыяльнай часткай быў забяспечаны толькі адзін. 17 і 20 мехкарпусы фактычна былі без танкаў.

Аператыўнае разгортванне войск ажыццяўлялася па плану прыкрыцця дзяржаўнай граніцы, які 11 чэрвеня 1941 года быў прадстаўлены ў Наркамат абароны. Нягледзячы на тое, што план не быў зацверджаны, згодна з ім, на ўчастку 470 кіламетраў разгорталіся чатыры арміі. Паласа абароны 3-й арміі дасягала 120 кіламетраў, 10-й — 200 і 4-й -- 150 кіламетраў. Паміж 10-й і 4-й арміямі павінна была заняць абарону 13-я армія, якая на пачатак вайны так і не была сфарміравана.

Аналіз плана абароны дзяржаўнай граніцы паказвае, што асноўная маса злучэнняў акругі сканцэнтравалася ў Беластоцкім выступе. З 26 дывізій першага эшалона тут разгортвалася 19, у тым ліку ўсе танкавыя і матарызаваныя. У выніку флангі створанай групоўкі аказаліся слабымі, што і скарыстаў праціўнік.

Да нядаўняга часу гаварылася аб падаўляючай перавазе праціўніка над нашымі сіламі на пачатак вайны. Падкрэслівалася 5-6-ці разовая перавага на асноўных накірунках. Што ж, нападаючы ва ўсе часы імкнуўся быць больш моцным за сваю ахвяру. Яшчэ Напалеон казаў, што гасподзь Бог на баку вялікіх батальёнаў і што для перамогі неабходны суадносіны 3:1 на карысць наступаючага.

Рэальныя суадносіны сіл бакоў, калі прыраўняць савецкія сілы да адзінкі, выражаліся прапорцыямі: па асабоваму складу -- 1:1,57, танках -- 1:0,37, самалётах -- 1:0,54. Суадносіны сіл і сродкаў у паласе ЗахВА на 22 чэрвеня 1941 года былі наступнымі:

| Сілы і сродкі | Праціўнік | ЗахВА | Суадносіны |
|---|---|---|---|
| Дывізіі | 40 | 44 | 1:1,5 |
| Асабовы склад (тыс. чал.) | 820 | 671,9 | 1,2:1 |
| Гарматы і мінамёты | 101 763 | 10 087 | 1,06:1 |
| Танкі | 810 | 2 201 | 1:2,7 |
| Самалёты | 1 677 | 1 685 | 1:1 |

Параўнанне сіл і сродкаў Заходняй асобай ваеннай акругі і групы армій "Цэнтр", сканцэнтраванай у паласе акругі, паказвае, што суадносіны іх былі прыкладна роўнымі. Выключэнне складалі танкі...

А як жа класічная формула Напалеона? Нямецка-фашысцкае камандаванне і не спрабавала дасягнуць [illegible]льных колькасных суадно[illegible] 3:1. Стаўка рабілася на якаскую перавагу вермахта. Начальнік германскага генеральнага штаба Ф.Гальдэр у снежні 1940 года пыхліва заявіў: "Рускі чалавек -- непаўнацэнны. Армія не[illegible]е сапраўдных камандзіраў. Пачатая рэарганізацыя рускай арміі да вясны не зробіць яе лепшай. Вясной мы будзем мець яўную перавагу ў камандным саставе, матэрыяльнай частцы, войсках. У рускіх усё гэта будзе, несумненна, больш нізкай якасці. Калі па такой арміі нанесці магутны ўдар, яе разгром немінучы".

Праціўнік сапраўды змог стварыць на рашаючых накірунках 4--6 разовую перавагу, але не з прычыны аб'ектыўных фактараў, а ў выніку пралікаў савецкага кіраўніцтва.

Пры гэтым непасрэдна на заходняй граніцы нашы дывізіі прыкрыцця звычайна мелі асобныя батальёны і палкі, нярэдка без артылерыі, накіраванай перад вайной для вучэбных стрэльбаў на палігоны без боекамплектаў. Значная частка ўзбраення і боепрыпасаў была забрана з войска і закансервавана. У шэрагу месц танкі стаялі з разабранымі для рамонту маторамі, бакі самалётаў знаходзіліся на прамыўцы. Да таго ж многія часці здалі састарэлыя ўзоры ўзбраення, а новых на пачатак вайны атрымаць не паспелі.

Пра няведанне абстаноўкі і дагматычную прыхільнасці вядомага тэзіса "малой крывёю, магутным ударам" сведчыць дырэктыва N 3, якая вечарам 22 чэрвеня пайшла на франты і прадпісвала неадкладна перайсці да наступальных дзеянняў з мэтай разгрому ўдарных груповак ворага і перанясення баявых дзеянняў на яго тэрыторыю. Спроба выканаць загад, "нягледзячы ні на якія страты", прывяла да дрэнна арганізаваных і няўзгодненых паміж сабой контрудараў механізаваных злучэнняў. Для выхаду на зыходныя рубяжы мехкарпусам давялося зрабіць маршы ў 200-400 кіламетраў пад беспярапыннымі і беспакаранымі ўздзеяннямі авіяцыі праціўніка.

У працэсе контрудараў і ў выніку знішчэння ў акружэнні ўласнай матэрыяльнай часткі механізаваныя карпусы Заходняга фронту страцілі практычна ўсе танкі -- 2 100 машын. Справа дайшла да таго, што для "запалохвання" праціўніка зрабілі фанерныя макеты танка Т-34 на аўтамашынах з драўлянымі гарматамі.

Але неслі вялікія страты і немцы. За тры тыдні вайны выйшла са строю каля 40 працэнтаў усіх танкаў. Ды бяда была ў тым, што, калі нашы страты ва ўмовах адступлення з'яўляліся беззваротнымі, то праціўнік аднаўляў значную частку падбітых машын, якія заставаліся ў яго тыле.

Праблема нашых чалавечых стратаў, прынесеных на алтар вайны, -- адна з самых вострых і балючых тэм. На пачатковым этапе вайны аб стратах вельмі шмат хлусілі. Хлусілі старшыны, каб атрымаць за "мёртвыя душы" лішнія "наркомаўскія" 100 грамаў, хлусілі многія генералы, каб схаваць ад раззлаванага начальства сумныя вынікі свайго камандавання.

Але страшна не тое, што мы ніколі не даведаемся пра дакладныя статыстычныя даныя, страшна іншае: людзей не шкадавалі. Здзіўляцца гэтаму не прыходзіцца. Бясконцы спіс мільёнаў бязвінных, што загінулиі ў гады даваенных рэпрэсій, быў прадоўжаны такім доўгім спісам неапраўданых страт пачатковага перыяду вайны. Таго перыяду, калі яшчэ не існавала пахавальных камандаў, і загінуўшых пакідалі непахаванымі на полі бою, калі быў выданы загад, які аб'яўляў страту зброі ў баі "найцяжэйшым парушэннем ваеннай прысягі" і па сутнасці забараніў дастаўку раненых у шпіталі без асабістай зброі.

У першы тыдзень вайны Заходні фронт панёс велізарныя страты ў асабовым складзе. Толькі баявыя страты склалі звыш 500 тысяч чалавек (77 працэнтаў штатнага складу). У першыя дні вайны ў дзеючую армію было мабілізавана звыш 400 тысяч чалавек і большая частка з іх загінула, так і не трапіўшы ні ў якія спісы. У выніку гэтага аналізу можна меркаваць, што лічба загінуўшых у баях у чэрвені--ліпені 1941 года складзе звыш 600 тысяч чалавек. І гэта без уліку тых, хто загінуў у палоне, у партызанскіх атрадах і г.д.

Сумны быў лёс і тых, хто выйшаў з акружэння. Людзі, пераадольваючы неверагодныя цяжкасці, прабіваліся праз фронт, каб працягваць барацьбу з ворагам, а іх разглядалі як патэнцыяльных злачынцаў, часта рэпрэсіравалі, а то і расстрэльвалі.

Ці варта сёння трывожыць сэрца і душу трагедыямі 1941 года? Забыцца, выкрасліць з памяці -- не было такога! Як ні цяжка прызнаць, -- усё гэта было. Былі сотні тысяч загінуўшых у баях за Радзіму, былі тысячы расстраляных па загаду N 270 ад 16 жніўня 1941 года, былі дзесяткі тысяч асуджаных былых ваеннапалонных. І забываць пра гэта мы не маем права, хаця б дзеля таго, каб ніколі, ні пры якіх абставінах нічога падобнага не паўтарылася.

Ці азначае гэта, што нам няма чым ганарыцца? Дэгераізаваць вайну? Не, вядома ж -- не! Успомнім жа сёння добрым словам усіх загінуўшых у крывавых бітвах чэрвеня 1941 года. Калі б не яны, не было б і пераможнага мая 1945-га.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

# КАРАЛІШЧАВІЧЫ, КАРАЛІШЧАВІЧЫ...

## *(СТАРОНКІ НЕ ХРЭСТАМАТЫЙНЫЯ)*

### КАТЫ

Сястра-гаспадыня Карлаўна -- нібыта нават вінілася:

-- Таварышы пісацелі, я вельмі прашу вас не пазніцца на вячэру. Дзяўчатам і Вікторыі Іванаўне -- вы ж ведаеце -- як ісці ноччу дадому...

Дзяўчаты былі афіцыянткі. Вікторыя Іванаўна -- шэф-повар. А дадому ісці і сапраўды -- каму было ў Сіняло, каму -- у Апчак. Свет няблізкі. Ды яшчэ лесам. Ды зімою.

І, вядома ж, мы не пазніліся. Прыходзілі ў час. Садзіліся -- у кожнага сваё аблюбаванае месца -- за вялікім авальным сталом пад хрумсткім, гэтак туга накрухмаленым, бялюткім абрусам, з абавязковай зялёнай зімовай галінкай у вазе -- хваёвай, ці яловай. Для свежасці і пахаты!

Заезд той, памятаю, быў як на падбор з рагатуноў-штукароў: Сева (Усевалад) Краўчанка, Анатоль Астрэйка, Антон Бялевіч, Алесь Рылько... Былі Макар Паслядовіч, Тарас Хадкевіч, шляхетны Сцяпан Майхровіч. Быў Аркадзь Куляшоў... І сярод іх я -- адна жанчына.

У Каралішчавічах, у Доме творчасці, у той заезд яшчэ "працаваў над раманам", як ён сам акцэнтаваў, і Аляксей Кулакоўскі. (Гэта пасля таго ўжо, як стварыў ён літаратурны запіс кнігі В.І.Казлова "Людзі асобага складу"). Тады была якраз эра яго парторгаўскай у Саюзе пісьменнікаў дзейнасці. Пры ім жа тады быў забаронены ў Саюзе пісьменнікаў і більярд... Каб не швэндаліся розныя Шарапавы (асы більярда) і розныя іншыя абібокі... Каб не перашкаджалі працаваць Саюзу!

Не памятаю ўжо, ці то Аляксей Мікалаевіч прыехаў пазней за ўсіх нас, астатніх, ці то з выключнай павагі да яго парторгаўскага статусу, але яму быў накрыты стол асобна. Такі невялікі ўтульны квадратны стол -- гэтаксама пад бялюткім накрухмаленым абрусам і з хваёвай для паху галінкай у вазе. Але асобны...

Аляксей Мікалаевіч меў звычку: на вячэру -- абавязкова пазніцца! І бедная Карлаўна ледзь не плакала:

-- Ай-яй, гэтакая завея на вуліцы! А дзяўчатам жа дадому ісці...

Але ж вымову Аляксею Мікалаевічу не зробіш... Пакрыўдзіцца. Абразіцца. Ды яшчэ накрычыць!.. Нешта ўсё ж аднак трэба было прыдумаць.

Мы ўсе павячэралі ўжо. Стол наш прыбралі. Самы час быў даць разгарненне жартам, пазубаскаліць..

-- Слухайце, хлопцы! -- абвёў усіх нас прыжмураным, жулікаватым позіркам Сева Краўчанка і кіўнуў галавою на дзверы, з якіх павінен жа быў, нарэшце, узнікнуць наш парторг: -- Слухайце ўсе мяне!

Вядома, усе мы замерлі.

-- Я яго, хлопцы, ад гэтай шляхецкай яго замашкі -- пазніцца -- адвучу! Толькі -- дамова. Што б я ні казаў, каб ніводзін з вас не пікнуў нават! Не зарагатаў...

У гэты самы момант за дзвярыма, у халодных летніх сенцах, пачуўся грук: з'явіўся Кулакоўскі, збіваў снег з ботаў, абтрэсваўся -- каб годна зайсці ў сталоўку.

Мы ўсе так і напружыліся: якую ж тут штуку выкіне Сева?

-- Добры вечар! -- спаважна вітаецца Аляксей Мікалаевіч і скідае шэрую каракулевую шапку-папаху (як у Хрушчова -- тады ад яго на такія папахі была ў мужчын якраз мода), паволі затым расшпільваецца, вешае -- таксама на асобную вешалку -- не ў агульную гуру -- сіняе зімовае паліто з гэтакім жа шэрым каракулевым каўняром.

-- Добры, браце, вечар! -- за ўсіх нас адгукваецца Сева Краўчанка.

-- Я, здаецца, прыпазніўся крыху, -- кіруецца да свайго стала Кулакоўскі.

Стол чакае яго. Закуска. Кефір. Хваёвая галінка...

-- Прыпазніўся, браце Алёша, прыпазніўся, -- добразычліва-весела згаджаецца Сева.

Мы ўсе чакаем, як пойдзе разгортвацца яго сцэнар далей.

-- А мы павячэралі ўжо, -- кажа далей Сева, -- ды вось цябе чакаем...

-- А я запрацаваўся... -- салідна паведамляе нам, не такім вялікім стараннікам за пісьмовым сталом, Кулакоўскі.

-- Гэта добра! -- зноў дае сваю згоду Сева Краўчанка. -- Толькі ты, браце, уважліва паглядзі... -- прыўстаў ён і паказвае кіўком галавы Кулакоўскаму на яго кефір і закуску.

-- А што такое? -- насцярожваецца Кулакоўскі.

-- Ды, разумееш, каты... Мы тут прыйшлі. Я якраз першы адчыніў дзверы... Дык ён, халера, з твайго стала, як гайсане! Гэты рыжы, з чорным хвастом... Хвост, як памяло, толькі шмаргануў па тваёй закусцы!

-- Як гэта... хвост па закусцы?! -- было ад чаго страціць мову.

-- А чаго ты дзівішся? Вунь Макар учора і не тое застаў! Кацяняты гойсаюць па стале і нюхаюць сыр!

-- Мой сыр нюхаюць?! На маім стале?..

-- Не толькі мо на тваім, браце... Але што ты ім забароніш ці растлумачыш, чый стол, чый сыр... Макар бачыў!

Макар Паслядовіч ад такой нечаканай імправізацыі толькі заціскае рукавом рот і адварочваецца да акна. Мы ўсе, астатнія, таксама душымся смехам.

-- Трэба, хлопцы, на вячэру ўсім нам прыходзіць раней. А то не ведаеш, можа яны, халеры, гэтыя каты, і кефір хлебчуць... -- ужо зусім невядома што пляце Сева.

...Нічога больш не слухаючы і не пытаючыся, як боская гроза, у адной руцэ з талеркай закускі, у другой з кубкам кефіру Кулакоўскі кіруецца да кухні.

-- Карлаўна! -- як у сваім парторгаўскім кабінеціку, дзе ён любіць рабіць вымовы правінным партыйцам, грыміць ён на хаду.

-- Я вас слухаю, Аляксей Мікалаевіч! -- імгненна ўзнікае ў дзвярах магутная і гэтак, як усё тут, накрухмаленая і храбусткая -- ад халата да белага каптура на галаве -- напалоханая Карлаўна.

-- Я пытаюся, што ў вас тут робіцця? (Такая ў яго была, у Аляксея Мікалаевіча, засцянковая старобінска-слуцкая форма на "-ця").

[illegible] А што ў нас тут?.. -- бялее Карлаўна.

[illegible]аты!.. Распладзілі катоў!.. -- ледзь не [illegible]урляе пад ногі сястры-гаспадыні талерку з закускай і кубак кефіру саюзны парторг. -- Замяніце мне ўсё!

Карлаўна, як фокуснік, умудраецца перахапіць і талерку, і кубак...

-- Заменім! Заменім, Аляксей [illegible]лаевіч!

[illegible] гэты самы момант з кухні пад ногі яму на аксамітавых лапах нячутка выступае рыжы кот -- з пушыстым, як новы венік, чорным хвастом.

-- Мя-я-ў! -- выгінаецца кот і абмахвае хвастом-венікам спачатку цубкі халат Карлаўны, а потым, пераступіўшы, гэтак жа абмахвае і штаны Кулакоўскага.

-- Вы бачыце! -- як ад тыгра, адскоквае ад ката Кулакоўскі.

Карлаўна махае на ката талеркай. Кот шмыгае і хаваецца пад нашым авальным сталом.

-- Дзяўчаты! Дана! Ніна! -- крычыць на ўсю сталоўку, заве афіцыянтак Карлаўна.

З дзвярэй, з кухні, выскокваюць Дана і Ніна -- маладзенькія прыгожанькія афіцыянткі. Дана -- бялявая, Ніна -- чарнявая. Аляксей Мікалаевіч умомант астывае і ўжо ўсмешліва-прыхільна пазірае на дзяўчат:

-- Што ж гэта вы, дзяўчаткі, гэтулькі катоў тут развялі?

-- Ды ў нас адзін усяго толькі кот! -- пырскаюць смехам у кулакі афіцыянткі.

-- Дык ганіце ж яго хутчэй! -- загадвае Карлаўна.

Дзяўчаты не ведаюць, дзе шукаць ката. І ён сам ім памагае. Спружыніста тэпае па чалавечых нагах пад сталом, выходзіць з-пад стала, плытка выгінаецца і мякка-нячутна кіруецца да стала Кулакоўскага. І як спружынай ускідвае сябе на яго крэсла...

-- Ты бачыў, Алёша? -- аж падскоквае ад захаплення Сева Краўчанка.

Кулакоўскі стаіць знямелы. Мы ўсе ляжым на сваім авальным стале нежывыя ад рогату.

-- Ну сабака! -- стогне Антон Бялевіч.

Дзяўчаты-афіцыянткі з ручнікамі і Карлаўна ўсё яшчэ з талеркай і кубкам у руках ганяюць ката па сталоўцы. Кот носіцца як ашалелы! Кот шукае ратунку!

Коласавы "начаткі" ды й толькі!

...Затое, як сем баб адхадзіла! З таго разу Аляксей Мікалаевіч не пазніўся ўжо на вячэру.

***

"І ўсе яны памерлі..." Такія жывыя. Такія не падобныя адзін на аднаго. Усе адышлі назаўсёды...

А я -- жыву? Можа, гэта трэба, каб я ўспомніла сёння, што яны былі? Успомніла іх імёны?

*1996 г.*

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 21--24.**



**У маі адбыўся фестываль "Студэнцкая вясна-96". Шмат мерапрыемстваў у гэтыя дні прайшло і ў Брэсцкім політэхнічным інстытуце. Студэнты сустракаліся з мясцовымі артыстамі, праводзілі сумесныя гульні. Зноў да іх прыехалі даўнія сябры -- ансамль скрыпачоў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі з Мінска. Гучала цудоўная музыка, калегі па вучобе правялі вечар сустрэчы, дыскатэку.**

**НА ЗДЫМКУ: іграюць скрыпачы з Мінска.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

# ДЗЯКУЙ НА ДОБРЫМ СЛОВЕ!

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1- й стар.).**

Вось, напрыклад, прынцэса Баварскага двара Тэрэза фон Баерн, пабываўшы раней у Амерыцы, паехала ў 80-я гады XIX стагоддзя ў Расію. Ехала яна праз Бела[illegible]сь. У кніжцы, якую яна вып[illegible]а не пад сваім імем, а пад [illegible]жчынскім, Тэрэза фон Баерн апісала падарожжа праз Беларусь і Расію. Цікава, што яна вельмі чотка адрозніла беларусаў, адзначыўшы этнаграфічныя асаблівасці -- адзенне, абутак, як нао[illegible] выглядалі беларусы. Ціка[illegible] рунтоўна апісала прыроду.

На пачатку XX стагоддзя на кангрэс у Расію праз Беларусь ехаў жэнеўскі ўрач. Ён выдаў кніжку з уласнымі рысункамі. Можна многа цікавых прыкладаў прывесці.

**-- А якія зараз існуюць кантакты паміж Беларуссю і Швейцарыяй?**

-- Некалі існавала таварыства "Швейцарыя--СССР", члены яго мелі даволі павярхоўныя веды пра вашу краіну. Цяпер кантакты на сучасным узроўні, найбольш па лініі гуманітарнай дапамогі, пасылаем сюды лекі, медыцынскае абсталяванне. Што тычыцца культурных кантактаў... Вось такі прыклад. Даволі вядомая швейцарская мастачка Сюзана Бауман арганізавала мастацкую выставу ў Мінску, потым у Віцебску. Думаю, што ў Віцебск яе прывяло тое, што там радзіма Марка Шагала. Ёй так спадабалася ў Беларусі, што яна вырашыла прадоўжыць супрацоўніцтва. У Мінску і Віцебску экспанаваліся выставы работ Сюзаны Бауман і швейцарская графіка мастакоў-постмадэрністаў. Праз некаторы час яна запрасіла ў Швейцарыю беларускіх мастакоў і арганізавала там выставу іх работ. Мінскаму і Віцебскаму мастацкім музеям Сюзана Бауман зрабіла каштоўныя падарункі, падараваўшы кнігі па мастацтву.

**-- А ці існуюць навуковыя сувязі паміж беларускімі і швейцарскімі славістамі? Вы супрацоўнічаеце са Скарынаўскім цэнтрам?**

-- Можна сказаць, што мы знаходзімся ў кантакце. Калі ў Швейцарыі хтосьці піша пра Беларусь, я стараюся знайсці гэты матэрыял і пераслаць у Скарынаўскі цэнтр. І ўсё ж не магу сказаць, што ў нас існуе беларусістыка. Гэта больш асабістая справа. Адзін раз ва універсітэце ў нас удалося правесці курс "Уводзіны ў беларускую мову і літаратуру" для студэнтаў славістыкі. Але толькі адзін раз.

**-- Моніка, вы вывучалі і рускую, і польскую, і беларускую мовы. Што як славіст вы можаце сказаць пра апошнюю, як ставіцеся да таго, што беларускай мове часам адмаўляюць у самастойнасці і называюць яе дыялектам рускай мовы.**

-- Я лічу беларускую мову цалкам самастойнай. Яна мае самастойнае развіццё. Проста ў свой час так складваліся абставіны, што ёй не далі развівацца. Ніколі не згаджуся, часам чуючы ад славістаў: калі ведаеш рускую мову, то аўтаматычна будзеш ведаць і беларускую. У беларускай мове ёсць свае асаблівасці, і яна мне больш падабаецца, чым руская, бо яна больш пагодная, больш мілагучная. Рускую мову я таксама люблю, але заўважаю ў ёй адценне агрэсіўнасці. Размаўляючы з расейцам, пастаянна адчуваю, што ён хоча мяне ў нечым пераканаць, прымусіць думаць так, як думае ён.

**-- А хто з беларускіх пісьменнікаў вам найбольш падабаецца?**

-- Найбольш Багдановіч. Ён беларус і таксама еўрапеец. Ён напісаў штосьці патаемнае сваё, беларускае і адначасова гэта агульнаеўрапейскае.

**-- А з сучасных?**

-- Я нямнога чытаю, бо больш займаюся гісторыяй, цікаўлюся кніжкамі па гістарычнай тэматыцы. Аднак люблю чытаць Разанава. Часам не ўсё ў яго разумею, але захапляюся цікавымі думкамі, гульнёй слоў, у яго вельмі багаты запас слоў.

**-- Як да вас трапіў "Голас Радзімы"?**

-- Пасля Першага з'езда беларусаў свету, куды я прыехала дзякуючы Скарынаўскаму цэнтру.

**-- Што цікавага для сябе вы знаходзіце ў "Голасе Радзімы"?**

-- Люблю чытаць пра актуальныя падзеі. Газета дапамагае зарыентавацца ў абстаноўцы на Беларусі. Падабаюцца матэрыялы на гістарычныя тэмы.

**-- Дзякуй за добрыя словы пра газету і за цікавую гутарку. Пыязджайце да нас зноў.**

**Гутарыла**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*СЛАВЯНСКІЯ ПЕРШАНАСТАЎНІКІ Ў БЕЛАРУСІ*

# ЯНЫ СЕЯЛІ ДАБРО

Цытаваная газета ад 13 красавіка 1885 года апісвае ўрачыстасці ў Віцебску: "...народ масамі збіраўся каля храма, які не мог умясціць усіх жадаючых маліцца; уся плошча, на якой яшчэ загадзя было збудавана ўзвышэнне, абцягнутае чырвоным сукном для архірэйскага служэння, да таго была перапоўнена народам, што конны рух па плошчы да часу заканчэння ўрачыстасці па неабходнасці спыніўся".

У цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі па шчаслівай выпадковасці мною была знойдзена папка з данясеннямі паліцэйскіх служачых губернатару Віцебска. Гэта перш за ўсё пісьмо епіскапа Полацкага і Віцебскага Маркелія губернатару Віцебска. У ім ён паведамляе, як будзе арганізавана свята св. Кірыла і Мяфодзія: "6 красавіка благавест да абедні ва ўсіх цэрквах горада Віцебска пачынаецца ў 9 з паловай гадзін раніцы, у 10 гадзін -- урачыстая літургія ў Кафедральным саборы, пасля заканчэння якой у 12 гадзін дня будзе праведзена малебства на плошчы перад Кафедральным саборам, куды да таго часу прыбудуць хрэсныя ходы з духавенства з усіх цэркваў Віцебска".

Цікавасць уяўляе і рапарт акруговага начальніка паліцыі Рэчыцы губернатару Віцебска. "Рэчыцкі благачынны свяшчэннік Барысевіч заявіў мне, што 6 чысла надыходзячага красавіка месяца мае адбыцца ў горадзе Рэчыцы ўрачыстае ўшанаванне памяці 1000-гадовага юбілея святых першанастаўнікаў і асветнікаў славян Кірыла і Мяфодзія. Не маючы наконт гэтага прадмета ніякіх распараджэнняў, я з прычыны зробленай мне заявы палічыў за патрэбнае прасіць распараджэнне Вашага Сіяцельства, ці змогуць быць дапушчаны якія б там ні было публічныя ўшанаванні памяці сказаных першанастаўнікаў Кірыла і Мяфодзія". У левым верхнім куце гэтага рапарта захавалася ўласнаручная рэзалюцыя губернатара Віцебска: "Дазволіць неадкладна!".

У сваім рапарце акруговы начальнік паліцыі Шчарбіцкі расказвае, як праходзіла свята ў горадзе Лепелі Віцебскай вобласці: "6 красавіка, у славуты дзень свята ўсяго славянскага свету тысячагоддзя памяці настаўнікаў і асветнікаў славян св. Кірыла і Мяфодзія ў горадзе Лепелі, у 9 1/2 гадзіны раніцы, з святой Пятніцкай царквы пасля адслужэння ранняй літургіі, праведзены хрэсны ход да святой Крыжаўзвіжанскай капліцы, а адтуль у Лепельскі гарадскі сабор, дзе здзейснена літургія, хрэсны ход вакол сабора і на плошчы малебства. У хрэсным ходзе ўдзельнічала ўсё гарадское праваслаўнае насельніцтва, але былі і католікі. Пасля заканчэння богаслужэння ў зале гарадскога вучылішча былі сабраны ўсе вучні гарадскога прыходскага і народных вучылішчаў, многа і іншых жыхароў, адбыўся акт, і настаўнікам гарадскога вучылішча Войнічам прачытаны гістарычны нарыс пра жыццё і дзейнасць святых Кірыла і Мяфодзія і значэнне іх прац як творцаў славянскай граматы для рускага слова і праваслаўных славян.

Затым у школе ваенных кандуктараў праведзена малебства, і свяшчэннікам Васілем прачытана кароткае апісанне жыцця святых Кірыла і Мяфодзія. Малебства скончылася спевамі царкоўных песень і абвяшчэннем. "Многая лета". Праз увесь дзень білі ў званы".

У данясенні паліцэйскага начальніка горада Полацка апісваецца, як праходзіла свята ў горадзе-радзіме Францыска Скарыны. "6-га красавіка ў горадзе Полацку, -- піша паліцэйскі, -- праходзіла ўрачыстае святкаванне ў памяць тысячагоддзя з дня смерці святога Мяфодзія, архіепіскапа Мараўскага, першанастаўніка славян і яго брата святога Кірыла. У 9 з паловай гадзін раніцы ішоў хрэсны ход з Пакроўскай царквы ў Нікалаеўскі сабор, у якім у гэты час пачалася літургія. Пасля заканчэння літургіі з, хрэсным ходам выйшлі з Богаяўленскага манастыра, царквы Кадэцкага корпуса і Нікалаеўскага сабора на плошчу, тут прачытана была адозва святога правячага Сінода і потым здзейснена малебства святым Кірылу і Мяфодзію. 7-га чысла пасля літургіі ў доме Брайновай свяшчэнніка Полацкай семінарыі было прачытана аб дзеянні святых Кірыла і Мяфодзія і праведзена ад Полацкага Брацтва раздача карцін, выраблёных з нагоды святкавання". У свяце, праведзеным у Полацку, адкрываем і новы элемент -- падрыхтоўка і раздача карцін кірыла-мяфодзіеўскай тэматыкі.

Дзень роўнаапостальных братоў Кірыла і Мяфодзія адсвяткаваны і ў Слуцкім духоўным вучылішчы з належнай урачыстасцю і амаль па апісаным вышэй сцэнарыі. У вялікай карэспандэнцыі з нагоды свята асабліва прыемна, што актыўны ўдзел ва ўрачыстасцях прымалі вучні, выхаванцы, а не толькі выхавацелі. "... і потым двое з выхаванцаў 4 класа, Л. Хілько і І. Сушчынскі прачыталі практыкаванні, напісаныя на тэмы: "Кім і калі складзена кірыліца па сведчанню Чарнарызца Храбра і яго пярэчанні супраць некторых наракання ў на славянскую азбуку" і "Навошта мы вывучаем славянскую мову". Першае практыкаванне заключалася ў перадачы вядомага твора Ч. Храбра: "Аб пісьмёнах", -- у другім даказвалася неабходнасць вывучэння славянскай мовы, як мовы нашай праваслаўнай царквы, што пастаянна чуем мы пры богаслужэнні:

**На нем мы прославляем Бога,**
**Им братья мы земли родной,**
**И у последнего порога**
**На нем прощаемся с землей,** --

і справядлівасць выказвання Кацярыны Вялікай: "Каб добра ведаць расійскую мову, належыць ведаць славянскую".

Афіцыйны друкаваны орган Гродзенскай губерні паведамляе, якім чынам грамадскасць горада і навакольных населеных месц рыхтуецца адзначаць свята святых Кірыла і Мяфодзія. Губернскі штодзённік адказвае на пытанне, чам[illegible]дзе ўрачыстая служба ў гарад[illegible] вёсках, і інфармуе аб парадку правядзення свята. Падкрэсліваецца, што агульны сход членаў Гродзенскага Сафійскага брацтва выказаў жаданне адзначыць гэты дзень "з усемагчымай урачыстасцю і ўвекавечыць у п[illegible]і народа дзейнасць святых пер[illegible]стаўнікаў славянскіх на карысць рэлігійна-маральнай асветы народа". Характэрна таксама, што "па распараджэнню ваеннага начальства ў хрэсным ходзе будуць удзельнічаць кватаруючыя ў Гродне войскі. Тры хоры ваеннай музыкі будуць суправаджаць працэсію хрэснага хода, пры гэтым выканаюць гімны святым Кірылу і Мяфодзію". Кіраўніцтва Гродна прыняло рашэнне ўсім прысутным на боскай літургіі раздаваць кніжкі з партрэтамі святых Кірыла і Мяфодзія. На малебне прачытана "перадсмяротнае настаўленне пастве святога Мяфодзія, архіепіскапа Мараўскага". Аўтар карэспандэнцыі з гонарам падкрэслівае, што на ўсіх урачыстасцях "прысутнічала юнацтва горада і наваколляў усіх хрысціянскіх веравызнанняў".

Геаграфія свята Кірыла і Мяфодзія ў Беларусі шырокая і ахоплівае ўсю краіну. На сваіх старонках епархіяльныя ведамасці Магілёва расказваюць аб свяце ў горадзе і наваколлях, публікуючы прывітанне свяшчэнніка Іаана Тутарскага. "І ў нашым правінцыяльным горадзе Магілёве, -- падкрэсліваецца ў рэдакцыйным артыкуле, -- населеным пераважна іншаверцамі, дастойна была ўшанавана гадавіна святых першанастаўнікаў". Ва ўрачыстых службах удзельнічалі рэктар духоўнай семінарыі Віталі, архімандрыт Сергій, настаяцель Брацкага манастыра архімандрыт Уладзімір, начальнік усіх мясцовых ваенных часцей. Праведзены і царкоўны парад. У наступным нумары таго ж часопіса апублікавана і выдатная карэспандэнцыя "Дзень Кірыла-Мяфодзіеўскага свята ў мястэчку Бяльнічы Магілёўскага павета". У ёй расказваецца аб урачыстасці ў невялікім населеным пункце, таму мы яе цытуем: "Абстаноўка службы Божай, як ва ўсякім сельскім храме, відаць, была звычайнай, а між тым, усё выглядала па-святочнаму, і ўсё дыхала як бы небывалаю ўрачыстасцю.

Айцом пратаірэем пры кожным богаслужэнні пасля звычайнай пропаведзі сталі рабіцца аглашэнні аб надыходзячым вялікім усеславянскім святкаванні ў гонар святых братоў Мяфодзія і Кірыла, незабыўных для нас, рускіх славян, як распаўсюджвальнікаў хрысціянства, як першанастаўнікаў царкоўнай славянскай грамаце, як арганізатараў богаслужэння на даступнай нашаму разуменню славянскай мове -- з запрашэннем прыехаць, пакінуўшы на гэты дзень усе свае жыццёвыя клопаты, і сабрацца ў храм для прынясення малітоўнай падзякі святым спадзвіжнікам за дзяцей, што маюць магчымасць выкарыстаць працы іх у адкрытых царкоўнапрыходскіх школах.

Але вось надышоў дзень урачыстасці: яна пачалася 5-га красавіка ў 6 гадзін вечара. Раздаўся заклік звана да ўсяночнай. Людзі прыйшлі з вёсак за 7 і 10 вёрст. Храм напоўніўся.

6 красавіка ў 9 гадзін раніцы пачаўся звон да літургіі. Пачалася літургія, якую спявалі адны вучні царкоўнапрыходскай школы пад кіраўніцтвам айца дыякана, без удзелу пастаяннага хора.

Дзіўна, што дзеці сельскіх сялян, якія правучыліся ў школах якіх-небудзь няпоўных 5 месяцаў, маглі ўжо ў дзень праслаўлення памяці святых асветнікаў Мяфодзія і Кірыла дзякаваць ім сваімі чыстымі галасамі.

На літургіі айцом пратаірэем сказана было адпаведнае ўрачыстасці слова аб тым, чым дарагая нам памяць святых братоў Кірыла і Мяфодзія, з кароткім нарысам іх жыцця, прац і подзвігаў і з выдатным вывадам, што лепш за ўсё мы можам аддзячыць святкуемых святых, калі будзем выхоўваць дзяцей сваіх так, як завяшчалі святыя Кірыл і Мяфодзій.

Пасля выхаду з храма, духавенства і навучэнцы, валасныя і сельскія начальнікі, бацькі і навучэнцы і многія старонніх адправіліся ў будынак народнага вучылішча, дзе была здзейснена ўрачыстасць.

І тут прагучала прамова, звернутая пераважна да навучэнцаў аб тым, наколькі яны павінны быць удзячны Кірылу і Мяфодзію, якія склалі і пакінулі нам славянскую азбуку, без якой немагчыма было б навучыцца ніякай грамаце на зразумелай нам мове, і значыць немагчыма было б выйсці з цемры да святла. Урачыстасць закончылася раздачаю на памяць аб гэтым дні ўсім вучням і іншым дзецям кніг: "Жыццё святых Кірыла і Мяфодзія" і па 2 экземпляры "Кіеўскіх лісткоў". І карэспандэнт заканчвае, справядліва падкрэсліваючы: "Быць можа, у многіх месцах славянскага свету -- я гавару пра бедныя вёскі, падобныя да мястэчка Бялынічы -- Кірыла-Мяфодзіеўскае святкаванне здзейснена было нават больш урачыста за наша, але для нас і тое, што мы бачылі, было вельмі знамянальна і пакінула пасля сябе нямала светлых успамінаў, таму што здзейснілася ў прастаце душы, без усякай афіцыйнасці, па аднаму ўнутранаму стаўленню і з павагі да памяці і заслуг святых першанастаўнікаў нашых".

Новыя дакументальныя матэрыялы паказваюць, што беларускі народ ведаў справу Кірыла і Мяфодзія, шанаваў памяць славянскіх асветнікаў, называў іх імёнамі цэрквы і манастыры, выводзіў літары кірыліцы на прадметах свайго побыту.

З праведзеных даследаванняў відаць, што ў Беларусі, таксама, як і ў Балгарыі, свята Кірыла і Мяфодзія было святам перш за ўсё царкоўным і свецкім. Таму невыпадкова, што на самых старых іконах і сценапісах зроблены надпіс: "Величаем Вас, Светии равноапостольнии Мефодие и Кирилле! Все славянские страны учением своим просветившие и ко Христу приведшие".

Заслугоўвае ўвагі факт, што свята мае канкрэтную мэту. Як было сказана ў дакуменце, "каб была карысць практычная" -- кожнай школе прадаставіць партрэт Кірыла і Мяфодзія, кожнаму вучню -- іх кароткае жыццё, а настаўнікам -- шырокае. Асобую радасць выклікае шырокае святкаванне дзён славянскага пісьменства ў вучылішчах, таму што дзеці -- гэта будучыня краіны.

*24 мая 1990 года* ўпершыню ў Беларусі прагучаў на беларускай мове гімн Кірыла і Мяфодзія ў перакладзе народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Упэўнены, што гэты гімн будзе выконвацца кожны год на свяце святых Кірыла і Мяфодзія.

**Пётр КУЦАРАЎ.**

*З балгарскай мовы пераклала Росіца КАМЕНАВА.*

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 22--24.**

ВЫСТАВЫ



**Рэтраспектыўная выстава графічных работ маладога мастака Леаніда Качана прайшла ў абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці ў Віцебску. Работы Леаніда мяккія і аб'ёмныя, у іх няма рэзкага, кантраснага графічнага рашэння, кожная адлюстроўвае светапогляд аўтара.**

**НА ЗДЫМКАХ: віцебскі мастак Леанід КАЧАН і яго графічныя творы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**








# АД ПРЫБЫТКУ ГАЛАВА НЕ БАЛІЦЬ, --

## КАЖА НАРОДНАЕ ВЫСЛОЎЕ





...І сапраўды. Ну хто ж адмовіцца ад лішняй капейкі, прабачце, ад лішняй сотні тысяч (а ў нас зараз менавіта такі лік) у кішэні! Для таго і працуем, каб за свае "кроўныя" паляпшаць уласнае жыццё і жыццё сваіх блізкіх. Здаровае жаданне нармальнага чалавека. А таму і базар існуе ўжо не адно стагоддзе. Атрымаў вялікі ўраджай, вырабіў шмат іншага тавару -- калі ласка, станавіся да прылаўка і чакай пакупніка. З'ява ычайная і ўвогуле цывілізаваная. У ıвілізаванай краіне, канешне.

У нас жа базар, а гэтыя здымкі зроблены на самым вялікім, Камароўскім у Мінску, больш нагадвае блашыны, прычым у самым горшым сэнсе гэтага слова. Так, 'т можна набыць і бульбу, і цылю, і яйкі, і малако, і мяса, прывезеныя з навакольных сялянскіх гаспадарак. Але разам з тым, Камароўка -- вялікая сцэна, дзе жыццё разыгрывае свае драмы, камедыі, а нярэдка фарсы, а то і трагедыі. Чаго толькі там ні ўбачыш. Тут табе і мажныя цёткі з агароднінай з уласных агародаў, і дзябёлыя дзявахі ў бліскучых ці карункавых кофтах, якія гандлююць заморскімі фруктамі, і іх нязменныя "апекуны", брытагаловыя, шыракаплечыя мясцовыя "крутыя", і нязменныя групы паўсюдных каўказцаў, што адчуваюць сябе на Камароўцы, нібы дома. А побач з усім гэтым, сумныя шарэнгі змучаных жанчын, якія "з рук" прапануюць купіць усялякую ўбогую драбязу, старыя, "божыя адуванчыкі", гатовыя аддаці аль ці не за так (усяго якую тыся жменьку шчаўя, або вось такі з ордэнскімі планкамі на пінжаку, стары, што прапануе на продаж, мяркуючы па фасону, ці не ўласныя "смяротныя" чаравікі, і, вядома ж, не ад таго, што збіраецца жыць вечна... Гэта ўсё -- мы сённяшнія, наша краіна, наша грамадства, яго квінтэсенцыя і сурагат адначасова. А прыбытак... Добра вядома з таго ж векавога народнага вопыту -- грошы любяць грошы. А таму, хутчэй за ўсё, у дзявахі з ананасамі і яе ўкормленага кавалера з'явіцца яшчэ адзін пудовы залаты ланцуг, а ў старога не застанецца нават "смяротных" чаравікаў. Вось такія "бараначкі"...

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**






## СПОРТ

ВАЛЕЙБОЛ. У Бельгіі прайшлі адборачныя гульні чэмпіянату Еўропы сярод маладзёжных каманд. Беларуская каманда ў рашаючым матчы перамагла балгарскіх спартсменаў і выйшла ў фінал. Дзяўчаты, на жаль, выступілі менш удала.

СКАЧКІ Ў ВАДУ. Традыцыйна моцныя нашы спартсмены ў гэтым відзе спорту. Вось і на чарговым этапе розыгрышу Кубка свету, які адбыўся ў Францыі, двойчы, на аднаметровым і трохмятровым трампліне, першыя месцы заняла Святлана Аляксеева. Зямлячку падтрымалі Андрэй Сямянюк і Сяргей Кудрэвіч, якія заваявалі па залатому медалю.

САМБА. Каманды краін СНД пакуль не аддаюць першынство ў гэтым відзе спорту нікому. І вельмі прыемна, што ў сёлетнім розыгрышы Кубка свету беларусы склалі дастойную канкурэнцыю расіянам. "Серабро" -- нядрэнны вынік нашых спартсменаў.

МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА. Не будзем рабіць прагнозы. Але на маючых адбыцца ў Атланце Алімпійскіх гульнях нашы спартсменкі павінны быць адными з галоўных кандыдатаў на перамогу. Гэта -- факт: цяжка прыпомніць спаборніцтвы, дзе б нашы дзяўчаты ні станавіліся пераможцамі ці прызёрамі. У апошніх выступленнях на першынстве Еўропы зборная Беларусі ўступіла толькі расіянкам.

СТРАЛЬБА. Сярод беларускіх спартсменаў Сяргей Мартынаў -- самы стабільны, ад яго заўжды чакай перамогі. І гэта ён пацвердзіў на міжнародных спаборніцтвах, што прайшлі ў Германіі. У стральбе з малакалібернай вінтоўкі ён заняў першае месца.

ГАНДБОЛ. Услед за жаночай маладзёжнай зборнай Беларусі, права выступаць у фінале першынства Еўропы заваявалі і мужчыны. Каманда нашай рэспублікі ў Нарвегіі адолела ўсіх сваіх сапернікаў: гаспадароў, Польшчы, Ізраіля.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Традыцыйны мемарыял братоў Знаменскіх штогод збірае мацнейшых спартсменаў свету. Сёлетні -- не выключэнне. І таму прыемна адзначыць беларускіх лёгкаатлетаў, якія сталі прызёрамі. Гэта, у першую чаргу, кідальнік молата Ігар Астапковіч стаў пераможцам, а таксама чэмпіён Еўропы Дзмітрый Маркаў -- у яго трэцяе месца ў скачках з шастом.

ГРЭБЛЯ АКАДЭМІЧНАЯ. У швейцарскім горадзе Люцэрн завяршылася перадалімпійская кваліфікацыйная рэгата.

На гэтых спаборніцтвах пашчасціла беларускаму экіпажу ў складзе Дзмітрыя МіронYчыка і Дзмітрыя Плячысцыка, якія занялі першае месца. А яшчэ заваявалі пуцёўку на Алімпіяду ў Атланту.

ТЭНІС. Міжнародная федэрацыя тэнісу выдала пуцёўкі на сёлетнія Алімпійскія гульні вядомай беларускай спатсменцы Наталлі Зверавай і яе зямлячцы Вользе Барабаншчыкавай. Яны прымуць удзел у парным і адзіночным разрадах.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

220005, Минск, праспект Ф.Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 611. Падпісана да друку 17.6.1996 г.